*Што азначала сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з пісьменнікамі, якая адбылася ў канцы мінулага тыдня? Чаму спатрэбілася ажно 16 гадоў, каб кіраўнік дзяржавы знайшоў час для абмеркавання праблем айчынных творцаў? Што па выніках гэтай сустрэчы не паказалі беларускія тэлеканалы? Ці азначае гэта сустрэча пачатак адлігі для дзеячаў культуры? Пытанняў застаецца шмат. Ды і падзея адбылася не шараговая...*

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

# Тры пытанні Хадановіча

На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка правёў сустрэчу з беларускімі літаратарамі. Усе звярнулі ўвагу на тое, што ледзь не ўпершыню на яе былі запрошаны незалежныя пісьменнікі.

— Я набраўся нахабства і запытаўся ў кіраўніка дзяржавы пра тры рэчы, — расказаў кіраўнік беларускага ПЭН-цэнтра **Андрэй ХАДАНОВІЧ.** — Першае: пра далейшы лёс “чорных спісаў”, пра цэнзуру і самацэнзуру, а таксама пра тое, калі незалежным пісьменнікам забяспечаць такія самыя стартавыя магчымасці друкавацца, трапіць у кнігарню і гэтак далей, якія маюць цяпер пісьменнікі з афіцыйнага Саюза.

Другое пытанне — пра незалежныя выдавецтвы: калі будуць забяспечаны прымальныя, годныя ўмовы для існавання ў гэтым полі прыватных выдаўцоў? Напрыклад, калі выдавецтву “Галіяфы” будзе дазволена гандляваць у кнігарні і калі вернуць і ці збіраюцца вяртаць ліцэнзію выдавецтву “ЛогвінаЎ”? Да таго ж падарыў кіраўніку дзяржавы кнігі нобелеўскіх лаўрэатаў Чэслава Мілаша і Віславы Шымборскай, выдадзеныя па-беларуску Логвінавым, у якіх ніякага экстрэмізму, у якім абвінавачваюць выдавецтва, няма.

І трэцяе маё пытанне тычылася самай няўдзячнай літаратурнай прафесіі ў Беларусі — перакладчыкаў. Я спытаў, калі будуць створаны годныя ўмовы для існавання, калі ў перакладчыкаў з’явіцца свой папяровы часопіс, які дазволіў бы ім публікавацца і матэрыяльна выжываць. Бо цяпер нашы перакладчыкі працуюць у інтэрнэце на голым энтузіязме.

Я быў прыемна здзіўлены разгорнутым адказам Лукашэнкі, маё выступленне заняло пяць хвілін, аднак разважаў кіраўнік дзяржавы паўтары гадзіны. У пэўны момант гаворка выкруцілася ў бок тэмы смяротнага пакарання, тэрарызму і лёсу Міколы Статкевіча, калі Лукашэнка патлумачыў свае палітычныя матывы.

Па шчырасці, я быў крануты тым, што, як казалі ў старажытнасці, улады захацелі выслухаць другі бок. Апроч пісьменнікаў з афіцыйнага саюза і чыноўнікаў ад літаратуры на сустрэчы прысутнічалі і незалежныя літаратары, у прыватнасці Барыс Пятровіч пацікавіўся лёсам беларускай мовы, перспектывамі выкладання па-беларуску ў школе і стварэння Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

Я не скажу, што ў адказ пачуў нешта кардынальна новае, але быў усцешаны жаданнем чуць не заўжды прыемныя для таго боку рэчы, не было агрэсіі ці абраз. Не ўпэўнены, што маё выступленне будзе мець нейкія карысныя наступствы — Логвінаву вернуць ліцэнзію, пра незалежных літаратараў будуць пісаць у афіцыйных медыях, ці з’явіцца часопіс для перакладчыкаў. Гэтыя рэчы мне важна было прагаварыць для ачысткі сумлення.

**Юрась УСКОЎ.**



*Кіраўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс ПЯТРОВІЧ** распавёў “Народнай Волі”:*

— Трэба, каб прайшоў нейкі час. Тады мы пабачым, ці адбудуцца нейкія змены, ці пачнецца нейкая супольная праца з другім саюзам пісьменнікаў. Мы, у прынцыпе, не супраць, але наколькі гэта патрэбна і наколькі гэта атрымаецца? Упершыню за столькі гадоў існавання мы сустрэліся разам за адным сталом. Гэта было першае знаёмства. Што будзе далей, прадказваць цяжка. Напрыканцы сустрэчы была пастаўлена задача перад двума саюзамі — арганізаваць нейкую сумесную прэмію, каб падтрымаць тых маладых літаратараў, якія ідуць сёння ў літаратуру, незалежна ад жанраў — паэзія гэта ці проза.

— **Ці рэальна гэта?**

— Шчыра кажучы, не ўяўляю, наколькі гэта можа быць рэальна. Але паспрабаваць можна. Галоўнае, каб гэтая ідэя пайшла на карысць самой літаратуры.

**— Калі Аляксандр Лукашэнка сказаў, што яму патрэбна дзве гадзіны, каб перайсці на беларускую мову, ніхто не прапанаваў узяць і перайсці?**

— Там нешта такое прапанаваць было не так проста, бо гэта было сказана ў прамове між іншым. Сэнс быў такі, што ён ведае беларускую мову, вывучаў яе ў школе і можа валодаць мовай, але для гэтага патрэбна практыка.

— **Можа, практыкі няма таму, што з атачэння ніхто не размаўляе?**

— Можа, але пра гэта трэба запытвацца не ў мяне.

— **Не падалося вам, што, магчыма, былі і нейкія іншыя прычыны для сустрэчы?**

— Апошняя сустрэча была 16 гадоў таму. Нам было сказана, што за гэты час не з’явілася ў нас ні “Войны и мира”, ні “Тихого Дона”.

— **Дык, можа, настаў час напісаць хаця б якую “Малую зямлю”, дзе галоўны герой — наш вядомы суайчыннік?**

— Аляксандр Лукашэнка не патрабаваў, каб нешта пісалі менавіта пра яго. Не думаю. Хутчэй за ўсё, мэтай была размова з літаратарамі, бо ад апошняй сустрэчы прайшло амаль два дзесяцігоддзі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПАСЛЯСЛОЎЕ**

# Вайна і мір. Да гісторыі пытання

## *Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, з 1998-га па 2001 год — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў*

Я не пра раман “Война и мир” рускага пісьменніка Льва Талстога, аналага якога вось ужо 20 гадоў дамагаецца Лукашэнка ад беларускіх літаратараў. Я пра тую вайну, якую пачаў ён калісьці супраць нацыянальнай літаратуры — і пра цяпер прапанаваны мір.

План вайны быў складзены тагачасным (1998 г.) ідэолагам, беларусафобам палкоўнікам Замяталіным. План меў на ўвазе раскол адзінай на той момант беларускай пісьменніцкай арганізацыі і экспрапрыяцыю яе маёмасці. Лукашэнка план ухваліў. Рэалізацыя яго была даручана генералу Чаргінцу. Палкоўнік Замяталін разлічваў на яго як на генерала, а Лукашэнка — як на будучага аўтара рэмейка рамана “Война и мир”, у якім меркаваў паўстаць царом Аляксандрам.

Разлікі Замяталіна апраўдаліся. Чаканні Лукашэнкі — не.

Бывае.

Ну ды не гэтак яно важна. Важней: у чым прычыны абвешчанай пісьменнікам вайны? Вось што ў той час сказаў пра гэта сам Лукашэнка на нарадзе сваёй вертыкалі.

“Ну что это за отношение у некоторой даже интеллигенции, у этой “рады пісьменнікаў”?.. Втихую приняли резолюцию накануне Нового года. Побежали на этот “дэмакратычны бандыцкі сход”, зачитали резолюцию. Для чего?.. О каком суверенитете, о какой независимости мы здесь говорим? Надо же быть разумными людьми!.. А если “рада пісьменнікаў” хочет быть “незалежнай” — с завтрашнего дня, Владимир Петрович (Заметалин), сделайте ее незалежнай! Вот и все! *(Аплодисменты.)*

Не тот президент — пусть выбирают себе другого... Мы еще разберемся с этим вопросом”.

Разабраліся. Старшыня Саюза пісьменнікаў змушаны быў з’ехаць з краіны.

“Дэмакратычны бандыцкі сход” — гэта Кангрэс за незалежнасць Беларусі, на якім і была зачытаная рэзалюцыя Рады Саюза пісьменнікаў:

“Стварэнне “адзінай” расійска-беларускай дзяржавы будзе значыць на практыцы далучэнне Беларусі да Расіі. Змяненне дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь з’яўляецца не чым іншым, як ігнараваннем нацыянальных інтарэсаў, і не можа лічыцца легітымным, бо супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь”.

Сёння Лукашэнка не пытаецца: “Аб якім суверэнітэце, пра якую незалежнасць мы тут гаворым?” Сам толькі пра гэта і вяшчае. Умеў бы вершы пісаць, казаў бы вершамі, ды закінуў іх яшчэ ў маладосці. Вось і вырашыў усё-такі запрасіць тых, хто пісаць умее. Не адных генералаў. І прапанаваў мір.

Як вядома, нават кепскі мір лепшы за добрую сварку. Таму наўрад ці варта яго адвяргаць. Але прыняць яго можна толькі з адной умовай: вярнуць нарабаванае! І не толькі Дом літаратара ў Мінску, Дом творчасці на Іслачы, пісьменніцкую паліклініку, але і павагу дзяржавы да беларускіх пісьменнікаў, самаадданымі намаганнямі якіх і была сфарміравана на пачатку мінулага стагоддзя сама беларуская ідэя і зроблены першыя крокі да беларускай дзяржаўнасці.

**РЭАЛІІ**

# *Марціновіча паклікалі «на разговор»*

Літаральна ў той жа дзень, калі ў Мінску Аляксандр Лукашэнка сустракаўся з пісьменнікамі і гаварыў пра тое, што ў краіне поўная свабода для літаратурнай творчасці, у Гродне праходзіла прэзентацыя новай кнігі **Віктара Марціновіча** “Мова”.

Яе ладзілі кампанія “Будзьма” ды “Беларускі кнігазбор”. Праз 20 хвілін з пачатку імпрэзы ў будынак грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай увайшлі супрацоўнікі міліцыі і інспектар Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Яны паведамілі, што мерапрыемства ў будынку несанкцыянаванае, і павялі Віктара Марціновіча, айца Андрэя Крота і Міраслава Лазоўскага складаць пратакол апытання за правядзенне незаконнага сходу.

Прэзентацыя была сарвана.

Пазней кіраўнік аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага гарвыканкама **Віктар Мамачкін** прызнаў, што міліцыянеры “перагнулі палку”.

*“Я быў вельмі здзіўлены, калі адчыніліся дзверы і я ўбачыў міліцэйскую фуражку”,* — прызнаўся Віктар Марціновіч.

І тым не менш Марціновіч настроены аптымістычна. *“Я лічу, што адбылася перастрахоўка лакальных беларускіх чыноўнікаў, якія яшчэ не зразумелі, што беларуская мова, беларуская літаратура, беларуская культура — дэкрыміналізаваныя. Што сустрэчы пісьменнікаў і іх чытачоў не забаронены”,* — упэўнены пісьменнік.

Паглядзім, паглядзім...



**НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ**

## *Семен БУКЧИН*

# Свобода есть, но где наши Толстые и Шолоховы?

Как-то в самом деле ничего существенного у нас в духовной сфере не происходило в последнее время. В основном — про Украину. Ну про борьбу с коррупцией, естественно, — кого нужно в наручники. А да, вот относительно новое — за тунеядцев взялись. Работников не хватает, а под боком полмиллиона жирует. Есть предложение спецлагеря создать. Но земли мало, нет своей Сибири.

И вот на этом самом фоне стали очевидны упущения в той же духовной сфере. Оказывается, о писателях совсем забыли. А ведь они никуда не делись, эти бездельники и дармоеды. Вроде и вымереть должны были на бесхлебье. Но живучие оказались. Поэтому хочешь не хочешь — надо встречаться. Противно, конечно, поскольку надо что-то такое изображать, какую-то заботу о духовном. А Он эти пустые разговоры ох как не любит! Ведь главное-то в жизни давно известно: народ должен быть одет-обут, ну и накормлен, соответственно. Как всякий скот живой. Чего тут, собственно, стесняться? Все мы вышли из природы, из того самого дерьма.

Ну и позвали писателей в известный супердворец, где от самих масштабов и золотого сияния любой пришедший должен чувствовать свою малость и робость перед Властью. Что за писатели? Ну так, мелочь, конечно. Купалу с Коласом и даже Быкова уже не позовешь. Приходится иметь дело с этими. Как говорил Сталин — других писателей у меня нет. Хотя некоторые пыжатся — называют себя независимыми. Впрочем, есть хотят, как и все прочие. Это ж видно, что называется, невооруженным глазом. И это Он, сделавший милость и позвавший их, понимает. Глядит на этих оробевших литературных мышек и как бы между прочим ставит задачу.

Что же это, собственно, товарищи письменники, получается? Свободы полно, цензура отменена, а произведений, близких к “Войне и миру” и “Поднятой целине”, не наблюдается!

И представьте себе: никто не оспорил этого Его постулата насчет свободы в Беларуси. Раз Он сказал, что есть свобода, — значит, с этим все должны согласиться. А ведь мог встать какой-нибудь поэт и гордо заявить что-нибудь вроде того, что литература — это часть культуры, а культура — дочь свободы. А поскольку свободы нет в стране, где есть политзаключенные, где исчезают известные оппозиционеры, где попирается закон, где царят страх и всеобщая униженность, то и ожидать великих произведений нечего.

Но никто не встал и не заявил. И Он знал, что так будет. Что они, эти заячьи души, счастливые тем, что их позвали, станут что-то мямлить про “матчыну мову”, про какие-то издательства, якобы запрещенные, и прочую чепуху. Естественно, что осведомленнейший в писательских делах Николай Иванович Чергинец и министр информации Ананич дали тут же исчерпывающую информацию. И еще одна дамочка с предложением вылезла — насчет литературного конкурса. Ну это Ему понятно. Конкурс — это деньги. А интерес к деньгам — это всегда можно по-человечески понять. И Он, естественно, готов заплатить. Если, конечно, продукт соответствующий будет. Как в спорте: прыгнул или пробежал чемпионски — получай.

Да и порядок нужно с этими премиями навести. А то ведь дают, кто и кому хочет. Алексиевич вот недавно вроде звание какого-то офицера от президента Франции получила. Поляки свою премию для белорусов выдумали. И ведь не спрашивают руководство страны! Награждают — кого хотят! Разве это порядок? Надо будет закон принять — считать тех, кто принимает иностранные награды, предателями Родины. С Пастернаком в свое время правильно разобрались. Но, видимо, не до конца...

И царь Николай Второй насчет писателей слабак был. Вот и расшатала интеллигенция империю. Ну позвал бы там Толстого, Чехова... еще кого... Заждались мы, мол, Лев Николаевич, продолжения “Войны и мира”. И Чехову можно было бы намекнуть на что-то вроде ремейка “Вишневого сада”. Ну вот как с фильмом “Белые Росы” сделали. Ведь могут, когда захотят!

А самим писателям-то и немного нужно, по сути. Чуть-чуть отцовской ласки. Он специально перед ними пару фраз сказал по-белорусски. Ну там про мову как национальную сокровищницу и все такое, он же понимает и умеет, когда нужно сказать приятное. Так некоторые на этой встрече даже прослезились. И потом еще в интервью слезы вытирали и всё пытались разгадать, к чему это Он такие речи завел. А один ученый старичок подарил Ему свою книжку и со значением сказал, что на рисунке что-то не в ту сторону повернуто, вроде в восточную, а надо бы на Запад. Это они намекают, чтобы поменьше с Россией якшался и больше в сторону Европы смотрел. Учат Его… Ну пускай думают, что учат.

И как быстро они могут всё схватывать, когда захотят. Вот один из “независимых” после встречи публично заметил, что Он *“уже устал от фимиама со стороны литераторов”*. Оказывается, уже и фимиам Ему курят. Что ж, значит близки времена, когда Он, подобно Сталину, сможет сказать, что у Него задница болит оттого, что часто ее лижут.

А пока пускай письменники думают, почему *“свобода не породила великой литературы”.* Это он умеет — озадачить. И неужели так трудно понять, в чем состоит социальный заказ времени? Нужен большой роман о сегодняшнем дне страны, и естественно, что в центре должен быть величайший белорусский деятель современности. Ведь двадцать лет на президентском посту — не шутка! Вон Проханов уже пишет романы о Путине. А эти даже из состоящего у Него на иждивении писательского союза все Радзивиллами да Сапегами пробавляются.

Насчет же современности туго соображают... Между тем тут такие сюжеты закручены! Через такое пришлось пройти в борьбе за власть — Шекспир отдыхает. Но сигнал Он послал — должны отреагировать. А пока письменнику одному, поехавшему в Гродно на самовольно устроенную встречу с читателями, милиция кислород перекрыла. Это чтоб не думали, что наша свобода — это какая-то анархия. У власти нужно просить разрешения на такие дела. И вообще, у нас милиция всегда была на страже литературных интересов. Понимаешь это — значит, осознаешь, в чем она, настоящая свобода.

А что писателям есть нужно — это Он всегда понимал. И, как говорится, готов выложить серьезную сумму. Ну если, конечно, с Толстым или Шолоховым сравняются. На меньшее Он не согласен. Приоритет страны нужно повышать. Вот насчет Украины в Минске идут переговоры. Запад вроде уже не таким чертом смотрит в сторону Беларуси. А если и роман нужный сейчас поспеет... Да мы его тут так раскрутим, что Нобелевский комитет сам на карачках приползет. Такая жизнь настанет — никакой демократии не нужно.

**ВЫБРАНАЕ**

*На чым разышліся самыя таленавітыя беларускія творцы і нязменны прэзідэнт Беларусі? Што сказаў бы Аляксандру Лукашэнку, напрыклад, Васіль Быкаў, калі б прысутнічаў на нядаўняй сустрэчы з пісьменнікамі?*

*Па сутнасці, Васіль Быкаў напісаў пра гэта ў сваёй кнізе мемуараў “Доўгая дарога дадому”.*

## *Васіль БЫКАЎ*

# Доўгая дарога дадому

## *(фрагмент)*

Свабода — галоўная маральная й фізычная каштоўнасьць, дадзеная кожнай жывой істоце ад нараджэньня. Усё жывое і карыстаецца гэтай каштоўнасьцю, наколькі магчыма ў складаным, заблытаным сьвеце натуральнага існаваньня. Акрамя хіба што чалавека, якому недастаткова дадзенай ад нараджэньня свабоды. Каб у поўнай меры ўсьвядоміць і адчуць яе неабходнасьць, яму наканавана прайсьці праз хітрасплецены лябірынт жыцьця, а то і застацца ў адным зь яго тупікоў. І звыкнуцца, зачахнуць, згубіць прыроджаны дар свабоды, прыладкавацца ў імя элемэнтарных мэтаў біялягічнага існаваньня. Зрабіцца часткай натоўпу, грамадзтва, электарату — такім, як усе.

Але як быць асобе, каля яна выпадае з масы сабе падобных, калі гэта — мастак, якім рухае ўнутраны імпульс самавыяўленьня? Як пераадолець жывёльную залежнасьць ад соцыюму, які непазьбежна нівэлюе Богам дадзены дар? Ці, можа, ня трэба нічога пераадольваць, а падладзіцца, прыладкавацца, каб дасягнуць бесканфліктнага існаваньня? Дзесяцігодзьдзямі ў нашых вушах гучала рабская максыма: “Жыць у грамадзтве і быць свабодным ад грамадзтва нельга”. Сапраўды нельга, не дадуць, не дазволяць. Тыя, ад каго гэта залежыць, натхняюцца не падманлівай ідэяй чалавечай свабоды, а рэальнай патрэбай ўціску й сілы. І, праўда, яны валодаюць немалой сілай, бо яны — заўсёды ў большасьці.

Можа, сапраўды, каб выжыць, варта аб’ядноўвацца, зьбіцца ў зграю, як робяць многія істоты ў жывой прыродзе. Асабліва калі ёсьць ідэя — неістотна, добрая ці благая. Часам ідэя вызначаецца інстынктам нацыі, ці клясу, ці нейкай групы, і тады сьвет аказваецца перад імпэрскай, пралетарскай, нацысцкай ідэямі, праз якія заўсёды ліецца кроў. Апантанасьць так званымі папулісцкімі ідэямі каштуе вялікай крыві. І яны рэдка ажыцьцяўляюцца. Нават самая сьвятая зь іх — ідэя свабоды.

Але якая яшчэ ідэя патрэбная мастаку, калі яго душа ўжо захопленая ідэяй вышэйшай пробы — праўды й прыгажосьці? Іншаму ў яго сэрцы месца няма, ён — індывідуаліст. Усё значнае ў мастацтве ад пачатку ствараецца на аснове індывідуалізму. Спробы заарганізаваць мастацкую творчасьць (тым больш літаратурную) заўсёды мелі фіяска. Мастакі — адзінаасобнікі, яны ствараюць штучны тавар. Творчы альянс дваіх, нават калі кожны зь іх геній, немагчымы. Толькі паасобку. Нават калі яны адзінадумцы, адзінаверцы, належаць да адной партыі. Калектыўны элемэнт у мастацтве несумненна дэструктыўны.

Праўда, наш час асаблівы — крывадушны й жорсткі, а што да мастацтва — разбуральнае па сваёй сутнасьці, толькі мы яшчэ не да канца ўсьвядомілі гэта. Напэўна, зараз у першую чаргу трэба клапаціцца не пра росквіт, а пра выжываньне й захаваньне ўсяго лепшага ў нацыянальнай й сусьветнай культуры, што так бязьлітасна разбураецца ўладамі й часам. Напэўна, лепш захаваць усё. Але няўжо незразумела, што і разбураць таксама зручней адным махам — усё адразу. Так таньней для ўладаў, якія прывыклі ўладарыць ня толькі над целамі, але і над душамі людзей. З гэтай мэтай у нядаўнім мінулым яны стварылі партыю, калгасы, гулаг, каб заграбсьці ўсіх адразу. І сагналі мастакоў у “творчыя” саюзы, дзе ўзялі іх у “творчы” палон. Гэта, як правіла, рабілася рукамі тых самых мастакоў зь ліку самых спрытных калябарацыяністаў. Па старым прынцыпе самаабслугоўваньня: самі пішыце, самі сябе і саджайце.

Наша літаратура быццам паціху выкараскваецца з таго інтэлектуальнага гулагу, зь якога яшчэ трэба выбрацца нацыі. Свабода рабочых і сялянаў патрабуе, як кажуць, вялікіх валютных інвэстыцыяў, на якія дзяржава нязьдольная. Літаратуры не асабліва патрэбныя інвэстыцыі, але ёй цалкам неабходная свабода. Аднак інтэлектуальная свабода каштуе яшчэ даражэй, чым права на валоданьне зямлёй. Зрэшты, у Беларусі вынік аднолькавы — ні ў сялян няма зямлі, ні ў пісьменьнікаў — свабоды (...)

Усё гэта — непераадольная сіла няволі, зь якой нацыя звыклася, параднілася, адступаць ад якой рызыкавана. Як ставіцца да гэтага мастакам? Томас Вэнцлова, напрыклад, піша, што найвышэйшы патрыятызм — у тым, каб ваяваць з комплексамі сваёй нацыі. Сказана не да самай закамплексаванай нацыі — але гэта — праўда, і, адпаведна, адносіцца да ўсіх нацыяў без выключэньня.

Можна зразумець нашых калег, расейскіх дэмакратаў, якія нядаўна перажылі тое, што і мы, і зараз пацягнуліся да падманлівай, цяжкадасягальнай свабоды. Аб’яднаўшыся зь беларусамі, яны думаюць набыць дадатковы шанец на шляху да яе, кіруючыся ўсё той самай лёгікай — разам лягчэй. Але старая чэская прымаўка кажа: не запускай млын, калі ня можаш яго спыніць. Ці здолеюць нашыя расейскія калегі годна распараджацца хаця б уласнай свабодай? А можа, больш рэальная і для нас, і для іх небясьпека страціць усё? Дзе гарантыі, што іх свабода дасягнутая цалкам і назаўсёды? У краіне, дзе не бясконцыя ганебныя войны, дзе паўсюль ліецца кроў, прыціскаецца свабода слова, а галоўнай дзяржаўнай ідэяй робіцца ўсё той самы нацыянал-імпэрыялізм? Занадта гэта сумнеўна...

У нас і ўласных бед хоць адбаўляй. Разбураецца эканоміка, народ даведзены да галечы, зьнішчаюцца нацыянальная культура і мова. Падобна, што дапамагчы нам ня можа ніхто — так глыбока завязьлі мы ў багне хлусьні й тыраніі, што ад нас адвярнуўся ўвесь белы сьвет. І ўсё ж нам, як тым зэкам, вельмі ня хочацца трапіць з адной камэры ў такую самую, асабліва калі перапынак паміж допытамі стаўся такім кароткім.

Напэўна, кожнаму свой шлях да свабоды трэба прайсьці ў адзіночку. Усё ж індывідуалізм і ў гэтым выпадку — ня самы горшы выбар на шляху да яе. Можа, ня лепшы, але і не найгоршы, — у аснове калектыўнае свабоды заўсёды ляжыць свабода індывідуальная.

Напэўна, мае развагі пэсымістычныя, хаця душа прагне аптымізму. Як калісьці пісала вялікая Леся Ўкраінка: “Без надзеі ўсё ж спадзяюся...”

*Сакавік 2002 года, Франкфурт-на-Майне. (Правапіс аўтара захаваны.)*

«ПРАГРЭС»!

# Дарога, якую мы не выбіралі

## *І праз яе цяпер адно мучэнне...*



Дарогі, вядома кожнаму, гэта сімвал прагрэсу, памкнення ў будучае, вечнага руху наперад! Так думалі і мы з землякамі — жыхарамі некалькіх паселішчаў у Чэрвеньскім раёне. Радаваліся: нарэшце і нас той прагрэс не абміне, пасля рэканструкцыі аўтадарогі М4 Мінск—Магілёў (участак Мінск—Смілавічы) жыццё палепшыцца-палегчыцца. А выйшла — ну, тлумачыць доўга не трэба: чакаць чакалі, а атрымалася, як заўсёды.

На новую дарогу глядзець здалёк — адна любата! Для імклівых аўто — прастора і разгон. А вось для тутэйшага люду проста пакута... Асабліва для жыхароў трох буйных вёсак — Заполле, Снежкі (размешчаных па левы бок дарогі, калі рухацца з Мінска) і Карзуны (справа ад дарогі). У выніку рэканструкцыі цяпер яны аж скачуць ад "шчасця": хочаш не хочаш — рабі лішні круг у пяць кіламетраў, каб патрапіць з тых жа Карзуноў у Заполле, і такі самы круг, каб вярнуцца назад.

Вёскі тыя ніяк не назавеш малалюднымі. У іх (калі пералічваць у алфавітным парадку) жыве адпаведна 1300, 450 і 130 чалавек. Пры гэтым амаль усе аб'екты сацыяльнай інфраструктуры: сярэдняя школа, ФАП, дзіцячы садок, бібліятэка, лазня, аддзяленне раённага КБА і іншыя — сканцэнтраваны ў Заполлі. У многіх сем'яў радня ў суседніх вёсках. Уяўляеце, якая ажыўленая там дарога? Да таго ж каля Карзуноў распачата буйная індывідуальная забудова на 149 участкаў, і хутка яшчэ дабавіцца жыхароў, якія таксама сутыкнуцца з патрэбай даступнасці сацыяльна-культурных аб'ектаў...

Што ж прапанавалі нам у якасці "злучальніка" паміж населенымі пунктамі ў акрузе? Як ні дзіўна — адкрытую эстакаду! Яе вышыня прыкладна 10 метраў ад падэшвы дарогі. Здавалася б, што за праблема? Аднак яна ёсць. Бальшыня вяскоўцаў — людзі сталага ўзросту, ім падняцца на такую вышыню зусім не тое, што маладому. Ды і жанчынам з малымі дзецьмі ненамнога прасцей, каб своечасова патрапіць з імі ў школку ці дзіцячы садок.

Ну а калі здарыцца непазбежнае, нехта з нашых адыдзе ў іншы свет — як быць у жалобным выпадку? Могілкі знаходзяцца на ўскрайку г.п.Смілавічы побач з аўтадарогай М4. Цяжка ўявіць, якім чынам можна будзе правесці ў апошні шлях нябожчыка з Заполля ці Снежак. Давядзецца ехаць спачатку ў накірунку Мінска, затым праз кіламетраў пяць развярнуцца і тады ўжо рушыць на Смілавічы. Пагадзіцеся, дзікунства нейкае, абсурд!

Але ж у нас не толькі пра мёртвых, а і пра жывых часам забываюцца. Такое адчуванне ў мяне і ў большасці землякоў, што ўсю гэтую рэканструкцыю праектаваў які студэнт-дыпломнік, ды і то далёка не выдатнік вучобы. Расчарціў стос папяровых лістоў прыгожымі лініямі — і далей хоць трава не расці! Справа зроблена, але без уліку людскіх патрэб і жыцейскіх падказак. А куды прасцей (пэўна, і танней) было б зрабіць пад палатном дарогі падземны пераход. Аднак на апошнім сходзе з вяскоўцамі мінулай вясной у памяшканні Запольскай сярэдняй школы (прысутнічала каля 300 чалавек) з боку праектантаў прагучала ў апраўданне: маўляў, гідралагічныя ўмовы не дазволілі пракласці трубу пад дарогай.

Прабачце, шаноўныя, але на двары XXI стагоддзе. Яшчэ ў мінулым веку пабудаваны тунэль пад Ла-Маншам, а тут зарыцца на тры метры ў зямлю — невырашальная задача? Адзін з жыхароў, спецыяліст-будаўнік, на тым сходзе слушна даказваў, што існуюць спецыяльныя маркі цэменту, якія і вырашаюць праблему гідраізаляцыі. На заўвагу адказу не прагучала. Між тым у іншых месцах на гэтай аўтадарозе толькі ў накірунку да Смілавічаў, дзе гідралагічныя ўмовы не лепшыя за запольска-карзуноўскія, падземныя пераходы зроблены (прыпынкі "Прывольны", "Лугавая слабада", "Яфімава" і інш.). І гэта пры тым, што колькасць жыхароў злучаных паселішчаў куды меншая за абыдзеных увагай жыхароў Заполля, Карзуноў і Снежак. На трасе зроблены развязкі паблізу і зусім малакольскасных вёсак. (Гэта добра, нельга не радавацца за ўсіх, каму пашчасціла не трапіць пад кола "прагрэсу".)

Я наўмысна спыніўся перш за ўсё, як кажуць па-казённаму, на чалавечым фактары створанай гора-праектантамі праблеме, бо лічу словы Цыцэрона "Дабро народа — вышэйшы закон" вызначальнымі як для сябе, так і для тых, хто кіруе намі. Аднак не абыду і эканамічны аспект. Да прыкладу: большая частка сельскагаспадарчых зямель ААТ "Запольскае" (60%) і дзве малочна-таварныя фермы гаспадаркі размешчаны на другім баку ад аўтадарогі М4, што вядзе да павелічэння выдаткаў на транспартныя мэты: штодня даводзіцца спальваць звыш ранейшага сотні літраў бензіну і саляркі, асабліва ў пару жніва і нарыхтоўкі кармоў. На ўжо згаданым сходзе намеснік дырэктара ААТ "Запольскае" Чэрвеньскага раёна А.Калашнікаў нагадаў, што кожны месяц такія "вандроўкі" тэхнікі абыходзяцца гаспадарцы — жартачкі сказаць — у 118 мільёнаў рублёў. І гэта толькі траты, звязаныя з аб'ездамі!

А хто падлічыць, у якую капеечку вылятае паліва, спаленае вяскоўцамі па дарозе на працу ў Мінск і з Мінска? Чым яны вінаватыя, што іх з дня ў дзень фактычна штрафуюць праз пераплаты за паліва пры аб'ездах, караюць толькі за тое, што зараз павінны накручваць лішнія кругі? Як эканаміст-географ, магу ўпэўнена сцвярджаць, што сённяшняя тэндэнцыя маятнікавай міграцыі жыхароў сельскай мясцовасці працоўнага ўзросту захаваецца і надалей, бо звязана ў значнай ступені з недахопам працоўных месцаў у вёсцы. І, значыцца, колькасць фінансава пакараных новымі выдаткамі на праезд без усялякай віны з іх боку (і без выпіскі квітка на пакаранне!) будзе нават расці...

Не менш важныя аспекты праблемы — экалагічныя. Адзначу толькі, што павелічэнне пры аб'ездах выкінутых у атмасфернае паветра шкодных рэчываў ад аўтамабіляў і сельгастэхнікі істотна павялічыць ціск на прыроднае асяроддзе, пагоршыць і без таго далёка не волатаўскае здароўе многіх людзей. І не толькі старых. Да прыкладу, ля самай дарогі ў Заполлі паўстаў мікрараён для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Пра тое, што і людзі, і пасевы сельскагаспадарчых культур літаральна ў пяці метрах ад такой моцна насычанай аўтамабілямі трасы будуць атрымліваць яшчэ большае шкоднае ўздзеянне, казаць не даводзіцца. Ды гэта праблема ўсёй краіны: лічым нярэдка тое, што на паверхні, і заплюшчваем вочы на не менш істотнае. Выгады ж — ноль, а то і страты перавышаюць мяркуемую выгаду.

Пра шумаабаронны шчыт праектанты таксама забыліся, хаця адлегласць да трасы першых дамоў нагаданых вёсак не перавышае дзесяць метраў. Пры гэтым такі шчыт паставілі... каля могілак у Смілавічах. Атрымліваецца, што пра спакой памерлых, дзякуй Богу, паклапаціліся, ды пра здароўе жывых не падумалі. "Прагрэс", нічога не скажаш...

Між тым яшчэ на стадыі праектавання пры рэканструкцыі дарогі на пачатку 2012 г. зацікаўленымі арганізацыямі ("Белгіпрадар", "Мінскаўтадар Цэнтр") на чале са старшынёй Смілавіцкага сельскага Савета Валянцінай Іванаўнай Півавар праводзіўся сход жыхароў а/г Заполле, в.Снежкі і в.Карзуны, на якім былі дакладна вызначаны прыпынкі і развязка дзеля злучэння Карзуноў з Заполлем. Аднак у працэсе самога будаўніцтва ў праект былі ўнесены змены, якія і стварылі нагаданыя вышэй праблемы. Мы пра змену першапачатковых намераў ні сном ні духам. А калі ўбачылі, што нешта не тое робіцца, ужо нічога не маглі змяніць. Падобна, што такая непрадуманая карэкціроўка — вынік адной з нарад у 2013 годзе, калі кіраўнік дзяржавы выказаў незадаволенасць ходам будаўніцтва аўтадарогі М4 Мінск—Магілёў, звярнуў увагу на вялікія траты грошай з-за будаўніцтва непатрэбных развязак каля малых населеных пунктаў. Праектанты і будаўнікі адрэагавалі на ўказанні вельмі проста: адмовіліся ад будаўніцтва таго, чаго яшчэ не паспелі зрабіць. "Пад раздачу" бяздумных выканаўцаў трапілі і раней запланаваныя развязкі па злучэнні паселішчаў Заполле і Карзуны.

Здзіўляе тут не толькі бяздумнасць тых, хто лёгка ўзяў пад казырок і пайшоў на няўзважаны, непралічаны варыянт эканоміі (якім бокам вылазіць падобная эканомія, я ўжо казаў), але і абыякавасць некаторых мясцовых органаў улады да патрэб людзей, якія тут жывуць. Хіба не адказны Чэрвеньскі райвыканкам за тое, што адбываецца на яго тэрыторыі?! Ён павінен лепш валодаць сітуацыяй, чым хто іншы.

Дапускаю, што пры рэканструкцыі дадзенай дарогі — часткі рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця аўтамабільнага транспарту ў Беларусі на 2011—2015 гг. — голас органаў мясцовага кіравання мог быць па нейкіх прычынах не прыняты да ўвагі. На жаль, пры жорсткай цэнтралізацыі ўлады органам кіравання на месцах, хутчэй за ўсё, адводзіцца роля простых статыстаў. Яны не самастойныя ў сваіх рашэннях. Аб гэтым сведчыць рэакцыя, а правільней сказаць — нярэдкая адсутнасць усякай рэакцыі на шматлікія скаргі ад насельніцтва. Што пацвярджаюць і вынікі сходу ад 16 мая 2014 года.

На той сход былі запрошаны, паўтаруся, прадстаўнікі райвыканкама, праектнай і падраднай арганізацый, абласной ДАІ. Нягледзячы на кепскае надвор'е, сабралася мноства вяскоўцаў, зацікаўленых у вырашэнні вельмі важнага для іх пытання. Аднак на ўсе іх патрабаванні і заўвагі гучаў адзін адказ: "Няма грошай". Прадстаўнік ДАІ неперакананаўча выклаў свае рэзоны: маўляў, адмовіліся ад першапачатковага плана, каб пры магчымым павелічэнні транспартнага патоку не дапусціць росту аварыйнасці... Але пры цяперашнім асвятленні, што з'явілася ў выніку рэканструкцыі (ад Смілавічаў да моста праз р.Волма), такая сітуацыя падаецца малаверагоднай... Прадстаўніца райвыканкама А.Шахоцька спасылалася на тое, што на сваёй пасадзе яна не так даўно і не можа выказацца грунтоўна. Але прызнала, што з боку раённых выканаўчых улад далёка не ўсё было зроблена для вырашэння ўзніклай праблемы.

Адносна грошай хацелася б нагадаць: калі так бяздарна патрацілі вялізныя сродкі на рэканструкцыю, дык чаму не звярнуцца цяпер за імі ў фонд, які папаўняецца з 2014 г. праз збор падатку, уведзенага на права карыстання аўтасродкам? Ды і дарога ўжо платная. Мне, аўтааматару, здаецца, што тут нейкая неадпаведнасць. Аб'явілі дарогу хуткаснай, зрабілі платнай, грошы ідуць у дзяржаўны бюджэт... Але ж ёсць і тыя, хто пры тым страціў. Гэта — кіроўцы аўтамабіляў і людзі, якія не могуць цяпер нармальна, зручна перабрацца з аднаго боку трасы на другі. І маюцца цяпер, як гарох пры дарозе, якую не выбіралі, бо іх спакой, іх патрэбы не ўсіх хвалююць, ад каго залежыць іх вырашэнне.

Удумайцеся: патрачаны вялікія сродкі, а цяпер патрэбна ўкладваць новыя на выпраўленне дапушчаных памылак. Можа, гэта і не памылкі зусім, а неадэкватнае, фармальнае стаўленне зверху, каб найхутчэй дакласці начальству: "Ура! Усё ў парадку! На вецер — ні капеечкі". Ну, а што пакрыўдзілі пры тым сотні і сотні людзей і яны не хочуць маўчаць — дык тое дробязі, як-небудзь усё ўляжацца і заціхне...

А вось у мяне і землякоў іншае перакананне: хай бы вінаўнікі гэтай катавасіі і аплачвалі з уласнай кішэні незапланаваныя выдаткі на выпраўленне хібаў у будаўніцтве дарогі, якую мы не выбіралі.

**З павагай —**

**Вячаслаў САСНОЎСКІ, кандыдат геаграфічных навук, дацэнт, а таксама Людміла КАРПАЧОВА, Ларыса РУСАК, Тамара МУКАВОЗЧЫК, Мікалай ВАЎЧОК і іншыя шматлікія жыхары а/г Заполле, в.Карзуны і в.Снежкі Чэрвеньскага раёна.**

ТАК ДУМАЮ

## *Каго абраць «адзіным»?*

Уважліва сачу за лідарамі апазіцыі, якія заяўляюць пра свае прэзідэнцкія амбіцыі. Шчыра кажучы, мне без розніцы, хто канкрэтна стане адзіным кандыдатам. Я нават параіў бы ім запалкі цягнуць, калі б не было відавочнага лідара. Але ўсё ж такі чалавек, якога трэба абраць адзіным кандыдатам ад апазіцыі, відавочна ёсць.

Вось глядзіце...

Уладзіміру Някляеву ў наступным годзе будзе 68 гадоў.

Аляксандру Мілінкевічу — 67.

Валерыю Фралову — 67.

Мікалаю Статкевічу — 58.

Анатолю Лябедзьку — 53.

Ясна, што калі мы супраць вяртання да герантакратыі, якая была ў застойныя савецкія часы, калі мы супраць таго, каб намі кіравалі дзяды-пенсіянеры, то выбар зрабіць вельмі лёгка. Проста відавочна, што адзіным павінен стаць Анатоль Лябедзька. Можа, ён па палітычнай вазе і не цяжэй за таго ж Статкевіча ці Мілінкевіча. Але ж не пенсіянер і ў бліжэйшы час ім не стане. Гэта, мне падаецца, вялікі плюс яму на карысць.

**Сяргей БАРТАШ.**

*Мінск.*

РИТОРИЧЕСКИЙ ВОПРОС

## *А как еще нас называть?*

Некоторые критикуют русских соседей за то, что они неправильно произносят название нашего государства, называя его Белоруссией.

А как же еще называть нашу страну, если до сих пор выходит проправительственная газета — "Белоруссия", да еще и "Советская"?

Нужно или переименовать газету, или признать, что у нас до сих пор советская Белоруссия.

Начинать надо с себя в первую очередь.

С уважением —

**Владимир СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*

З ПІСЬМА

## *Будзе ўласнік — будзе і парадак*

Не буду цытаваць артыкул Мечыслава Гіруця, былога першага намесніка Гродзенскага аблвыканкама, але ў працяг яго разважанняў скажу. Чыноўнікі не адпіхваюцца ад народа. Многія з іх, нібы піяўкі, прысмакталіся да яго, выцягваючы што толькі могуць. Адымаюць здароўе, атручваючы танным "чарнілам". Не даюць дыхнуць, падвышаючы кошты на харчаванне, квіткі на праезд, лекі, паліва, камунальныя паслугі. Душаць інфляцыяй і рознымі зборамі за паслугі дзяржаўных установ.

Усе размовы пра тое, што чыноўнікам трэба павярнуцца тварам да чалавека-працаўніка, — гэта пустая балбатня. Памятаеце, які прысуд даў калгаснай сістэме Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў: "Няма такой сілы, якая прымусіла б селяніна добрасумленна працаваць у калгасе".

Агульнае — значыць, нічыйнае. А таму і стаўленне да яго адпаведнае. Будзе ўласнік — будзе і парадак.

**Вячаслаў СУХАРЭБСКІ, жыхар вёскі Русіны Баранавіцкага раёна.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Няўжо ў СССР імкнёмся мы цяпер?*

**Пастаўскі райспажыўсаюз адкрыў новую сталовую пад назваю "СССР". Усё ў ёй у стылі савецкага часу — ад дызайну да страў.**

*У нетрах райспажыўсаюза*
*Пытанне ставілі парой:*
*Як накарміць людзей ад пуза,*
*Каб землякам узняць настрой?*
*І хтосьці там прыдумаў лоўка:*
*Было б няблага, каб цяпер*
*У нас адкрылася сталоўка*
*Пад назваю "СССР".*
*Райспажывецкае начальства*
*Ідэю ўспрыняло на ўра,*
*Бо настальгія мучыць часта,*
*Зірнуць назад даўно пара.*
*...Адзін*
*Мікола год каторы*
*Жыў у раённым гарадку,*
*Бо неяк напаткала гора,*
*Сагнула плечы дзецюку:*
*Сканала жонка нечакана.*
*І вельмі цяжка бабылю.*
*Была такая ў сэрцы рана —*
*Хоць сам укладвайся ў зямлю...*
*Яшчэ ж і іншыя напасці.*
*Да прыкладу, адна з турбот —*
*Што на вячэру ў рот пакласці*
*І што ў абед запхнуць у рот.*
*Калісьці жонка гатавала,*
*А сам як повар ён не спец.*
*Адно і ўмеў: падсмажыць сала*
*І калатушу збіць з яец.*
*Хацеў пабрацца з кімсьці зноўку,*
*Ды раптам (хоць вачам не вер!)*
*Адкрылі ў горадзе сталоўку*
*Пад назваю "СССР".*
*Тады й сказаў усім адкрыта:*
*— Яшчэ на свеце шчасце ёсць!*
*Такую радасць меў, нібыта*
*Вярнуўся ён у маладосць.*
*Усё як пры "эсэсэсэры":*
*На ўвесь фасад — агітплакат,*
*Аздобы мала ў інтэр'еры*
*І многа ленінскіх цытат.*
*На сценах — строгія партрэты*
*Былых чальцоў Палітбюро,*
*Як быццам супу ці катлеты*
*Таксама прагне іх нутро.*
*І посуд для Міколы блізкі*
*Яшчэ здавён, з армейскіх дзён:*
*З металу кружкі, ложкі, міскі,*
*А над сталамі — мух мільён.*
*Галоўнае ж, што пры ўваходзе*
*Ёсць забягалаўка-буфет,*
*І там напояў моцных годзе,*
*Так мовіць бы, увесь букет.*
*Не надта вабны для Міколы*
*Кефір або кампот са сліў.*
*І ён, каб быў настрой вясёлы,*
*Глытаў "чарнілка" на разліў.*
*Знаёмыя да болю стравы*
*І аднастайнае меню.*
*Салат з капусты без прыправы*
*(Затое столькі — як каню!).*
*Нішчымны суп з тае ж капусты*
*(Бывае, што і з ячных круп),*
*На мяса ў ім зусім не густа.*
*Такі знаёмы, родны суп!*
*А каб яшчэ прыемней стала,*
*Мікола там бярэ гуляш.*
*У ім кавалкаў дзесяць сала*
*І мяса два кавалкі аж.*
*А на дэсерт — крыху смятаны*
*І піва — каб не выйшаў хмель.*
*Абед — дзярмо. Затое танны!*
*(Калісьці каштаваў рубель.)*
*Сталоўка для Міколы — свята,*
*Што лёс нарэшце падарыў...*
*Шчаслівы, ён ідзе дахаты,*
*Сядзіць на лавачцы ў двары.*
*Яго душа спявае ціха...*
*А вечароваю парой*
*Нясе дадому паварыха*
*Кавалак мяса пад палой.*

ЗАДУМАЕМСЯ

# Почему Россия нам не союзник?

*То заседание Совбеза РФ, на котором Владимир Путин сделал много заявлений, вызвало широкий резонанс, в том числе и в белорусских СМИ. Однако ни в одном нашем издании не был сделан акцент на следующем высказывании: "Россия, слава Богу, не входит ни в какие альянсы, это тоже в значительной степени залог нашего суверенитета, любая страна, которая в альянсы входит, сразу часть своего суверенитета отдает, и далеко не всегда это отражает национальные интересы той или иной страны, но это их суверенное решение".*

Напомню, что Россия, как и Беларусь, входит в Организацию договора о коллективной безопасности. Получается, что РФ не считает договоренности в рамках ОДКБ (да и Союзного государства) для себя обязательными. Либо воспринимает страны ОДКБ как часть собственной территории. В любом случае — это заявление, по сути, денонсирует все прежние договоренности в рамках СНГ, ОДКБ, СГ и как нельзя лучше отражает всю внешнюю политику РФ по отношению к государствам бывшего СССР. После таких слов нашего "союзника" со стороны высших должностных лиц Беларуси должны были бы прозвучать значимые заявления, но их нет, поскольку белорусскому народу СМИ (все, включая оппозиционные) так и не разъяснили сути сказанного. А ведь наши, с позволения сказать, власти комментарии дают только после массового освещения события. Даже Лукашенко как-то заговорил по-белорусски, чтобы успокоить опасения народа по поводу утраты независимости.

Собственно, упомянутая выше речь Путина дает мне дополнительный аргумент в разъяснении всем знакомым, что у Беларуси союзников нет! До этого я приводил другой аргумент — известное российское высказывание: у России только два союзника — армия и флот (и Беларусь в их число не входит). Равно как и нет у нас союзников на Западе и Дальнем Востоке. Может, прав Лукашенко, что начал развивать связи с Мозамбиком, — как раз страны Африки могут быть нашими союзниками, поскольку они не более развиты, чем мы, и геополитических притязаний у них нет.

Позиция России относительно стран бывшего СССР обозначена была еще во времена прихода Путина к власти. Именно в то время (2001 г.) был принят федеральный закон о принятии субъектов в состав РФ и начали раскручиваться масс-медийные кампании относительно Украины, Беларуси, Азербайджана и т.д. Они, конечно же, не были интенсивны и четко направлены, но на протяжении 10-летия создали у народа России вполне конкретное представление и отношение к соседним государствам. То, что происходит сейчас в Украине (и ранее в Грузии), — это лишь этапы реализации давно продуманной стратегии России по восстановлению сферы влияния. К сожалению, большинство населения Беларуси в те времена не способно было осознать опасность этой простой стратегии, но сейчас она становится все более очевидной. Именно сейчас всем реальным белорусским СМИ нужно активизировать информационную кампанию по разъяснению обычным белорусам истинных последствий проводимой с 1995 года политики — угрозы существования Беларуси как суверенного государства, пока еще не поздно. И чем ближе к президентским выборам, тем эта кампания должна быть интенсивнее. Благо, что поводов для этого будет предостаточно (и торг за кредиты, и продажа белорусской оборонки, и ратификация договора о ЕАЭС и т.д. и т.п. — на этих примерах показать отсутствие независимой белорусской политики будет крайне просто).

Следующие президентские выборы будут для независимости Беларуси иметь крайне важное значение. Точнее не сами выборы, а вопрос о том, смогут ли СМИ, партии, организации и сами граждане создать в белорусском народе устойчивую необходимость существования Беларуси как независимого государства. В Украине это есть, у нас — я бы сказал, что нет.

**Егор ЛЕБЯДОК.**

*Смолевичский район.*

РЕЗОНАНС

# Кругом одни полковники

*Хоть и с опозданием, хочу поблагодарить Вас за то, что напечатали, а А.Орловского — за то, что написал, блестящую статью "Еще раз о наградах и не только" ("Народная Воля" от 22 августа 2014 года).*

Как говорится, ничего ни убавить, ни прибавить!

Только во фразе "...когда идешь по Минску, складывается впечатление, что самое низкое воинское звание у нас — подполковник" я написал бы "полковник". (Если не ошибаюсь, то Ваша же газета писала, что в Беларуси на каждый танк приходится аж три (!!!) полковника.)

**Валерий РУСИЦКИЙ, пенсионер.**

*Минск.*



ПРЭМ'ЕРА

# Сон драматургіі спараджае нуду ў зале

## «Тата» — прэм'ера ў купалаўцаў



Бацька жыў у вёсцы адзінадзінюткі, хаця меў пяцёра дзяцей. Чатыры дачкі і малодшага сына Сашку. Працаваў ён ад світанку да ночы, не ўмеў сядзець склаўшы рукі. Так за працай і памёр — нешта ладзілі з сябрам Юрасікам. Праваліўся пад сцэну — значыцца, пайшоў у зямлю. І вось тады стаў ён Татам, таму што малодшы яго, Сашка (артыст Раман Падаляка), вайсковец, маёр, выйшаў у адстаўку, стаў жыць у бацькавай хаце і весці размову з памерлым, называючы яго толькі Татам.

Але ні жыць спакойна, ні спаць не дае яму пытанне: ці любіў яго Тата? І тады ці то экстрасэнс, ці то псіхатэрапеўт-гіпнатызёр Альберт прымушае яго спаць, і сніць ён заўсёды бацьку і размаўляе з ім. Але Тата (народны артыст СССР і Беларусі Генадзь Аўсяннікаў) чалавек негаваркі і пра пачуцці не можа сказаць ні слова. Замест таго вучыць сына, як трэба чысціць калодзеж...

А дочкі з'яўляюцца ў вёсцы толькі пасля пахавання і не ідуць да Сашкі ў хату, таму што вырашылі яе прадаць, а грошы падзяліць. Прыехала нават Наталля, якая даўно ўжо падалася на заробкі ў Канаду. Менавіта на яе і запісана бацькава маёмасць.

Сустракаюцца яны на могілках, дзе пахаваны бацька і маці, выпіваюць самагонкі і... пускаюцца ў скокі. І сварацца, бо Сашка ж супраць продажу. А сёстрам і рабіць няма чаго, бо не выпісаны характары аўтарам — Дзмітрыем Багаслаўскім. Самая каларытная — Зіна (артыстка Вольга Няфёдава), бо яна п'янтоска. А такі вобраз лягчэй за ўсё зрабіць яскравым. Сашка прапануе ім адчапнога — велізарны пачак грошай, які даў яму Альберт. Але калі знялі тое, ува што быў загорнуты пачак, выявілася, што там не грошы, а нейкія паперкі і іх дзіцячыя фотаздымкі, і нібыта ўсе расчуліліся. І ўжо не зразумець, ці ўсё гэта адбываецца на яве альбо ўва сне.

Ёсць у драматургіі такі, самы лёгкі, спосаб: калі абставіны, дэталі, характары не супадаюць, не звязваюцца, аб'явіць, што ўсё адбывалася ўва сне. А тады не трэба ні сэнсу, ні логікі. Жанр п'есы так і заяўлены: "сон у дзвюх дзеях".

Здавалася б, такая актуальная тэма — адзінокія бацькі, няўдзячныя дзеці, раскаянне, што спазніліся... Але не здолеў аўтар напісаць так, каб кранала, каб сціскала горла...

І калі акцёрам няма чаго рабіць, за іх працуе выбітны майстра, мастак-сцэнограф Барыс Герлаван. Яны маўчалі, а за іх крычалі, плакалі, пакутавалі дэкарацыі-кінапраекцыі: грозна ляцелі аблокі, да зямлі гнуліся дрэвы, круціліся ў шалёным тэмпе могілкі...

А калі гаварылі акцёры, дык старэйшых — Генадзя Аўсяннікава, Зою Белахвосцік — яшчэ было чуваць, а маладзейшых — Рамана Падаляку, Марыну Гардзіёнак — нельга было зразумець нават у трэцім радзе партэра.

Я глядзела спектакль на прэм'еры. Але "ўдзячныя" гледачы чамусьці не запрашалі выйсці на сцэну ні аўтара Дзмітрыя Багаслаўскага, ні рэжысёра Кацярыну Аверкаву. Незразумела, чаму гэты спектакль прапанавалі на Міжнародны форум "ТЕАРТ". Ці ж не было нічога лепшага?

**Мая ГАРЭЦКАЯ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Выдавец Янушкевіч

***Першая ж кніга, што выйшала ў гэтым выдавецтве, стала сапраўднай падзеяй і выклікала вялікі рэзананс. Як прафесійны навуковец вырашыў заняцца выдавецкім бізнесам? Чаму ў Беларусі не чытаюць кніг уласных гісторыкаў? Пра гэта "Народнай Волі" расказаў кандыдат гістарычных навук Андрэй ЯНУШКЕВІЧ.***

**— Ваша выдавецтва называецца "Янушкевіч". Як узнікла ідэя яго стварэння? І чаму такая "нясціплая" назва?**

— Я задаў сабе два пытанні. На першае — "Што ўмею рабіць?" — адказаў, што акрамя навукі маю досвед у выданні кніг, навуковых зборнікаў і матэрыялаў канферэнцый. Пасля другога пытання — "Чаму б не паспрабаваць працаваць на сябе?" — вырашыў стварыць выдавецтва.

А ў назве, дарэчы, ніякай нясціпласці і славалюбівых амбіцый няма. Проста я зарэгістраваны як індывідуальны прадпрымальнік, а ім дазваляюць працаваць толькі пад сваім імем. Дарэчы, гэта вельмі стасуецца з еўрапейскай традыцыяй, якая выходзіць аж з часоў сярэднявечча.

**— Прафесійны навуковец ідзе ў кнігавыдаўцы. Няўжо вы спадзяецеся зарабляць на беларускамоўных кнігах па гісторыі?**

— Спадзяюся. Бо хочацца рэальна зацікавіць чытача гістарычнай белетрыстыкай, якая абапіраецца на сур'ёзныя навуковыя даследаванні. Кніга павінна быць якаснай — як па стылі, так і па дызайне, і досвед суседзяў гэта выдатна паказвае. Польскія або літоўскія гісторыкі пішуць не толькі навуковыя манаграфіі. Паралельна яны актыўна супрацоўнічаюць з папулярнымі часопісамі, тэлебачаннем і радыё, прэзентуюць вынікі сваіх даследаванняў для шырокай грамадскасці. Напрыклад, у Польшчы з 1956 года існуе навукова-папулярны часопіс "Mowia wieki" ("Кажуць стагоддзі"), які выходзіць па ініцыятыве не дзяржавы, а супольнасці гісторыкаў. Тыраж у 15 тысяч асобнікаў разыходзіцца цалкам.



**— А чаму ў Беларусі ніхто не ведае айчынных гісторыкаў?**

— Гэта праявы савецкай традыцыі. Раней усе гуманітарныя навукі (і гісторыя не выключэнне) раўняліся на навукі дакладныя. Такімі ж дакладнымі хочуць быць і нашы навукоўцы. Складваецца ўражанне, што яны нібы "фатаграфуюць" крыніцы, імкнучыся з іх дапамогай даказаць пэўны пункт гледжання. Але акрамя тэксту ёсць яшчэ і кантэксты. На жаль, гісторыя — не матэматыка або фізіка, дзе можна паставіць эксперымент ці даказаць тэарэму. Яна рэч цалкам суб'ектыўная. Усе гістарычныя асобы былі жывымі людзьмі з эмоцыямі, перажываннямі і комплексамі. А мы часта трактуем іх як мерцвякоў, якіх гісторык дастаў з шафы. Трэба наблізіць да чытача жывую гісторыю.

**— Атрымліваецца, што галоўнае ваша патрабаванне да аўтараў — уласны, суб'ектыўны пункт гледжання?**

— Вядома, не. Крытэрыяў некалькі. Тэматыка павінна быць цікавай чытачу, арыентавацца на попыт і камерцыйны поспех, бо выдавецтва — не дабрачынны праект, яно існуе за кошт самаакупнасці. Зразумела, што кніга з традыцыйнай назвай "Усенародная барацьба партызан супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў", ды яшчэ напісаная сухой акадэмічнай мовай, не будзе карыстацца вялікай папулярнасцю. Асновай кнігі мусіць з'яўляцца менавіта беларускі (а не рускі ці польскі) погляд на гістарычную праблему. Ствараць рукапісы павінны прафесіяналы, а не аматары, якія выдаюць сябе за знаўцаў па самых разнастайных праблемах і пішуць па пяць кніг у год. (Я ў такія цуды не веру.) Таму мы робім стаўку на навукоўцаў, якім ёсць што распавесці і якія ўмеюць добра пісаць.

**— Што ўжо зроблена выдавецтвам? Якія вашы далейшыя планы?**

— Пакуль выйшлі дзве кнігі. Даследаванне Пятра Дружджа "Бітва пад Оршай 1514 года", перакладзенае з польскай мовы, а таксама кніга Анатоля Трафімчыка "1939 год і Беларусь: забытая вайна". Праз два тыдні з'явіцца праца Аляксея Шаланды "Таямнічы свет беларускіх гербаў: шляхецкая геральдыка ВКЛ". У лістападзе — даследаванне Міколы Волкава, прысвечанае артылерыйскаму парку Радзівілаў. У больш далёкай перспектыве плануюцца кнігі пра нарманскі след у гісторыі Беларусі, пра бітвы пад Клецкам і Улай, інтымнае жыццё магнатаў і шляхты ў XVI—XVIII стагоддзях. Дарэчы, усе аўтары атрымаюць ганарар, няхай і сціплы. Матэрыяльнае заахвочванне мусіць сведчыць, што і на творчасці можна зарабляць.

**— Не баіцеся, што пад вокнамі выдавецтва будуць стаяць пікеты абураных ветэранаў, калі вы будзеце выдаваць кнігі пра "няправільную гісторыю"?**

— Абсалютна не баюся. Няхай пішуць сваё, толькі на якасным узроўні, няхай распачынаюць дыскусіі. Кожны аўтар мае права на сваё меркаванне. Англічанін можа быць і кансерватарам, і лібералам, але ўсё роўна застанецца англійскім патрыётам. А ў нас, калі ты ліберал, дык вораг для кансерватараў.

Скажу больш: часам нязгоду могуць выказаць людзі, якія прытрымліваюцца нацыянальных пазіцый. Напрыклад, расійскі гісторык Аляксей Лобін змяншае лічбу ўдзельнікаў Аршанскай бітвы 1514 года з маскоўскага боку з 80 тысяч да 12 тысяч. Можна падняць вэрхал і абвінаваціць яго ў нападзенні на святое. А можна спакойна выслухаць аргументацыю і высунуць свае довады. Сапраўды, 80 тысяч — неверагодная лічба (для таго часу так рабілі ўсе летапісцы або аўтары хронік). Але і лічба 12 тысяч (а з улікам баявых слуг — не менш за 25 тысяч) — вельмі высокая для сярэднявечча. Нездарма бітва пад Оршай увайшла ў гісторыю як "Вялікая бітва". І факт разгрому маскоўскага войска, унушальнай перамогі і трыумфу нашай зброі ў нас ніхто не адбярэ.

Памыляюцца людзі, якія, кіруючыся патрыятычнай пазіцыяй, прызвычаіліся глядзецца ў крывое люстэрка міфаў і перакручаных альбо нявывучаных фактаў. Раней ці пазней яно разаб'ецца, а праўда ўсё роўна стане вядомай. Адзіная зброя, якая ў нас застанецца, будзе толькі праўда. Менавіта яе мы павінны прытрымлівацца.

**Гутарыў Максім ПЛОТНІКАЎ.**

С НАТУРЫ

# Торговка и поэзия



Она демонстративно отворачивалась от камеры:

— Мне 73 года!

Я урезонивала:

— Софи Лорен еще больше!

Она быстро парировала:

— Ну, так женщина всю жизнь перед зеркалом тренировалась. А я всегда лицом книзу, за иглой. Еще в первый класс пошла в школу с книжками и — с вышиванием! Учительница потом маму в школу вызывала: зачем заставляете малую трудиться? А я по любви! Больше всего на свете люблю вышивать. Так раньше мама ругала, теперь дочки ругают: зачем вы так много работаете? А я все одно — до 12 ночи с иглой сижу.

Торговка махала на меня руками, но, в общем, не сердито, даже по-свойски. Я чувствовала, что настроение у женщины хорошее, хоть она и не хочет фотографироваться для газеты. Ну, это понятно — торговля-то на улице полулегальная. Но совсем отвернуться от меня не выходило, покупатель на ее яркий товар шел, можно сказать, стаей. Около богатых гарнитуров — женских блузок, мужских рубах, платьев, рушников — то и дело останавливались прохожие. Спрашивали цену, трогали руками тончайший лен, холст, батист. Гладили плотный узор, не доверяя, видимо, глазам — не печатный? Ручная работа? Да и просто стояли, практически разинув рты. Красивый товар! По теперешним временам редкий, притягательный. Да еще так мастерски выполненный: алой нитью по снежно-белому полю. Национальная одежда — мода на все времена. Живая поэзия. И — лежит прямо на асфальте. На стихийном рынке по дороге на Комаровку среди носков, петрушки и веников. Аж сердце защемило.

— Почему не за прилавком? Такая утонченная работа... А для пенсионеров часть торговых мест на рынке без арендной платы, бесплатно, — пробую завязать разговор с торговкой. Уже узнала, что она приезжает в Минск издалека, из Брестской области. Да и по мягкому говору чувствую, что женщина с нашего южного приграничья.

Мастерица отвечает:

— На Комаровке для моего товара рядов нет. А в Ждановичи, на "поле чудес", ехать не хочу. Ай, да там покупатель не тот. Лучше я здесь... Скромненько два дня в неделю, в пятницу и субботу, прихожу и стою.

Что ж, оно понятно, по улице Веры Хоружей покупатель ходит толпами, много молодежи. И, видимо, есть спрос...

— Да, — соглашается рукодельница. — Миллиона два в неделю зарабатываю. И все внучкам отдаю, студенткам.

— А где они учатся? — спрашиваю о любимых внучках, чтобы подобраться ближе к сердцу неприступной торговки.

— В Киеве! — с явной гордостью докладывает женщина.

Неожиданный поворот.

— И сами вы по национальности?..

— ...украинка! — торжественно завершает фразу женщина.

Вот оно что... Какие рисунки выводит настоящая жизнь! Для украинских девушек их бабушка успешно зарабатывает на белорусском декоре в Минске. Впрочем, я показывала фотографию этих вышиванок известному этнографу, доктору исторических наук Любови Раковой. Она сказала — ромбы на блузах характерны вообще для всех славян: белорусов, украинцев, русских. Очень часто узоры на нашей одежде общие. Да только ли узоры... Судьбами повиты. А вот взялись за оружие. Да с таким остервенением. Будто ненависть жила в двух народах всегда, но только лежала до поры до времени под спудом. Да не верю я, не желаю в это верить!

Кто-то из покупателей, слыша наш разговор, добавляет со значением:

— Вы у нас герой.

Буквально на днях главный дирижер Большого театра Виктор Михайлович Плоскина, работающий по совместительству главным дирижером и в оперном театре Харькова, рассказывал мне о небывалом подъеме патриотизма в Украине. Национальную одежду надели и женщины, и мужчины. И дети, и молодежь. Говорил мне не без гордости — он-то сам родом со Львовщины. "А вы, белорусы..." — читала я в его глазах немой упрек. Теперь я знаю, что ему ответила бы. Да, массово, напоказ не носим. Но покупаем! И киевские студентки в украинских блузах, получая "белорусский гонорар" от бабушки, лишний раз, может быть, в кафе смогут зайти, чтобы горячего поесть. Обедать надо даже патриотам.

**Елена МОЛОЧКО.**

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ

## *Пакіньце тэлефон для інспектара ДАІ*

*Пачала дзейнічаць новая інструкцыя аб прымусовай эвакуацыі аўтамабіляў. Дакумент зацверджаны ўрадавай пастановай.*

Вызначана, што рашэнне аб прымусовай эвакуацыі прымаюць супрацоўнікі ДАІ. Пры гэтым інспектар павінен агледзець аўтамабіль у прысутнасці ўладальніка ці яго прадстаўнікоў. Калі ж гаспадара не знайшлі, то павінны ўзяць як мінімум двух панятых і скласці адпаведны пратакол. Па магчымасці ДАІ павінна робіць фота- або відэаздымку і далучыць гэтыя матэрыялы да справы аб правапарушэнні.

Доступ уладальніка аўтамабіля або прадстаўніка ўласніка да эвакуяванага транспартнага сродку, згодна з новымі правіламі, магчымы кругласутачна, але толькі ў прысутнасці ахоўніка стаянкі. Пры гэтым гаспадар павінен аплаціць паслугі стаянкі і эвакуатара. Для атрымання сваёй машыны трэба мець дакументы на яе і правы кіроўцы. Асобам у стане алкагольнага ці наркатычнага ап'янення машыну не вернуць. У выпадку адмовы плаціць за стаянку грошы спаганяюць у судовым парадку.

Аўтамабіль прымусова адбуксоўваюць, калі ён чыніць перашкоды для іншых транспартных сродкаў, руху, працы транспарту аператыўнага прызначэння або дарожна-эксплуатацыйнай, камунальнай службаў. Прычым інспектары ДАІ, прымаючы рашэнне аб эвакуацыі, цяпер абавязаны зрабіць магчымыя захады, каб паведаміць уласніку аўто аб неабходнасці адагнаць машыну самому (так што пакідайце на бачным месцы свае нумары тэлефонаў).

Таксама супрацоўнік ДАІ мае права заблакаваць кола машыны. Блакуецца толькі пярэдняе левае кола. Здымаць блакіроўку цяпер будуць у прысутнасці гаспадара ці яго прадстаўніка.

ЧУЛІ?

## *Цягнікам на самалёт*

*З 7 лістапада ў Нацыянальны аэрапорт Мінск пачнуць хадзіць цягнікі. Сучасныя трохвагонныя дызель-цягнікі будуць курсіраваць штодня ў тэставым рэжыме ад станцыі Мінск-Пасажырскі.*

Пра гэта паведаміла прэс-служба Беларускай чыгункі. Ад канцавога пункту непасрэдна ў аэрапорт пасажыраў будзе падвозіць аўтобус. Агульны час падарожжа з улікам перасадкі зойме каля 70 хвілін: 55—56 хвілін на цягніку, 4—5 хвілін — на аўтобусе.

Кошт паездкі складзе 25 тысяч рублёў у адзін бок з улікам праезду на аўтобусе. Набыць квіткі можна будзе ва ўсіх пунктах афармлення праязных дакументаў Беларускай чыгункі, у тым ліку праз плацежна-даведачныя тэрміналы ў білетных касіраў і праз тэрміналы самаабслугоўвання, усталяваныя ў аэрапорце.

У трохвагонным дызель-цягніку ад польскай кампаніі PESA Bydgoszcz прадугледжаны 143 месцы для сядзення. Гэта камфартабельныя вагоны з мяккімі крэсламі, з кандыцыянерамі, прыбіральнямі і электраразеткамі. У цягніку прадугледжана зона для пасажыраў з абмежаванымі магчымасцямі.

АДРЕС

# В пустынь за исцелением

*По решению синода белорусской православной церкви недалеко от деревни Хмелево Жабинковского района из Спасо-Преображенского прихода образовалась единственная в Беларуси Хмелевская Пустынь.*

Пустынь — это небольшой монастырь (религиозная община монахов, принявших единые аскетические правила жизни, церковь и жилые помещения) в удаленном и богатом историей месте.

На сегодняшний день в Беларуси действуют 5 мужских и 8 женских монастырей. Не закрывался за всю историю своего существования только Жировичский Свято-Успенский мужской монастырь. Хмелево, что в пяти километрах от Жабинки, люди и раньше называли святым местом!

...На красивом небольшом холме в окружении соснового леса стоит голубая Спасо-Преображенская церковь. Крестообразная в плане, с пятигранной апсидой (алтарным выступом) и двумя ризницами. Церковь построена в 1725 году, заложена в праздник Преображения (Второй Спас). В XIX веке частично перестроена, тогда же рядом с храмом построили деревянную звонницу.

Интересна история создания этого храма. Почти триста лет назад эти земли принадлежали гетману Великого Княжества Литовского. И в тех местах в имении местного помещика случился пожар. Сгорела часовня (небольшая культовая христианская постройка). Но в пепле нетленной оказалась икона Божьей матери Ченстоховской (хотя писана она на холсте), которую и нашел сам помещик после того, как во сне к нему явилась с наказом сама Матерь Божья. С образом в руках искал помещик место для строительства новой церкви... Более живописного места, чем то, где возведен храм, в окрестностях нет. Возвышенность вроде и небольшая, но окрестности видны, как на ладони. Хотя и в гору, но идти легко. Рядом с церковью — большое ухоженное кладбище, действующее и поныне.

Настоятель Спасо-Преображенской церкви — иеромонах отец Серафим (в миру Василий Иванович Петручик), местный, из Жабинки. Служит здесь шестой год. И после того, как его молитвы стали помогать людям, у батюшки появилась идея создать на этом месте мужской монастырь со статусом Пустыни. Место понравилось владыке Брестскому, архиепископу Константину (ныне покойному), и он благословил отца Серафима на устройство монастыря. После благословения владыки за истекшие полгода построены братский корпус и трапезная. Заложен фундамент еще одного корпуса. В перспективе — кладбищенская часовня и домик для настоятеля. В деревне Хмелево куплен и обустраивается дом под гостиницу для помощников. Все строительство ведется на пожертвования. Вроде церковь и не маленькая, но всех желающих не вмещает, поэтому на ступеньках храма установлены динамики, то есть можно слушать службу на улице.



Почти день я провела среди прихожан и паломников, сумела подойти к иконе Божьей Матери Ченстоховской. Большая, под стеклом, в красивом золотом окладе, икона находится на иконостасе слева. На иконе Матерь Божья с ребенком на руках. На головах у обоих короны, вокруг голов сияние — символ святости.

Некоторые исцелившиеся в знак благодарности оставляют на иконе золотые цепочки, кольца, крестики. Взглянув на номерные знаки стоящих у ворот обители машин, понимаешь, что за исцелением едут издалека.

Об исцелениях ходят легенды. О них мне рассказали местные прихожанки. Вот несколько историй. Рассказывают о мужчине, которому врачи вынесли страшный приговор — рак. Но после посещения Хмелевской Пустыни больной пошел на поправку.

Услышала я историю и о мальчике, больном эпилепсией. После молитвы отца Серафима мальчик выздоровел. Особо помнят о десятилетней девочке, у которой отказали ножки. Батюшка отслужил над ней молебен, а уже через неделю девочка сама пришла в церковь.

В тот день, когда я была в пустыни, шло богослужение. Отец Серафим говорил о восьми главных страстях: чревоугодничестве, прелюбодеянии, сребролюбии, гневе, печали, унынии, тщеславии и грубости. И вдруг какой-то даме стало плохо: она начала кричать, корчиться, плакать... Отец Серафим подошел к ней, помолился, и она стала успокаиваться.

А настоятель церкви отец Серафим продолжал: "Кто низложил первые три из главных страстей, тот низложил вместе и пять последних, но кто не радеет о низложении первых, тот ни одной не победит. Грехи наши — причина несчастий, бед и страданий, а за прихоти человек получает возмездие через болезни..."

О своем даре отец Серафим не любит говорить. А его послушники мне сказали так: "Это Господь исцеляет, а отец Серафим всего лишь проситель. А раз человек пришел в храм, то хочет помочь себе сам, а настоятель ему чуточку поможет".

И действительно так!

Заступницей и целительницей в Хмелевской Пустыни является икона Божьей Матери Ченстоховской. Не так давно в церкви случилась кража. Украли и икону Божьей Матери. Но воров поймали. А когда отца Серафима пригласили опознать украденные вещи, он, не глядя, взял сверток. Там и была икона Божьей Матери Ченстоховской.

А теперь — о самом иеромонахе, отце Серафиме. Ему за сорок. Высокий, с правильными чертами лица, с черными, как смоль, бородой и волосами, пронзительным взглядом. В Кобринском художественном училище, где он когда-то учился (сегодня у училища статус высшего), его помнят и мастер, и преподаватели.

После училища мирянин Василий Петручик отправился в Жировичский мужской монастырь. Пять лет был послушником, затем принял постриг и имя Серафим, в переводе — пламенный. Может, это и созвучно его идее создания монашеского скита?

**Нина МАРЧУК.**

**МАЗАІКА**

## «Гомель» выйшаў з чорнай паласы

*Футбалісты "Гомеля" атрымалі перамогу пасля пяці паражэнняў запар.*



Першую перамогу на другім этапе чэмпіянату атрымалі футбалісты "Гомеля". 26 кастрычніка пасля пяці паражэнняў запар яны выйгралі на сваім полі ў навапалацкага "Нафтана" — 3:0.

У другой шасцёрцы бабруйская "Белшына" саступіла дома "Мінску" — 1:2, брэсцкае "Дынама" — "Слуцку" — 0:2, а магілёўскі "Днепр" згуляў унічыю з гродзенскім "Нёманам" — 1:1.

## Мінскі БНТУ ў 1/16 фіналу Кубка кубкаў згуляе з нямецкім клубам

*Адзін з лідараў жаночага гандбола Беларусі мінскі клуб БНТУ зноў аказаўся мацнейшым за літоўскі "Жальгірыс" і зараз згуляе ў асноўнай сетцы Кубка кубкаў.*

Чэмпіён Беларусі ў межах кваліфікацыйнага раўнда Кубка кубкаў у першым матчы 19 кастрычніка ў Мінску абыграў "Жальгірыс" з лікам 32:20. Выйграў БНТУ і матч у адказ, які 25 кастрычніка прайшоў у Каўнасе. Выніковы лік гульні — 28:23.

Зараз у 1/16 фіналу Кубка кубкаў у лістападзе БНТУ згуляе з нямецкім клубам "Бломберг-Ліпе".

## Радзівонаў застаецца ў БАТЭ

*Форвард **Віталь Радзівонаў** працягнуў кантракт з ФК БАТЭ.*



Заканчваецца ўжо дзявяты сезон форварда ў барысаўскім клубе. Да БАТЭ Радзівонаў далучыўся на пачатку 2006 года і толькі ў першай палове 2009-га на правах арэнды выступаў у нямецкім "Фрайбургу" (другая бундэсліга).

За час, праведзены ў складзе "жоўта-сініх", Радзівонаў стаў васьміразовым чэмпіёнам Беларусі, двойчы выйграваў Кубак краіны і тройчы — Суперкубак, шэсць разоў удзельнічаў у групавых стадыях Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы.

Віталь валодае некалькімі індывідуальнымі рэкордамі: з'яўляецца лепшым бамбардзірам у гісторыі БАТЭ (118 галоў), а таксама найлепшым беларускім снайперам у еўракубках (19). Усяго ён на дадзены момант правёў у форме барысаўчан 307 афіцыйных матчаў, паведамляе афіцыйны сайт БАТЭ.

## Беларуская тэнісная акадэмія адкрылася ў Мінску

*Тэнісная акадэмія Беларусі ў бліжэйшым будучым можа стаць лепшай у свеце.*

Такое меркаванне выказаў сёння старшыня Беларускай тэніснай федэрацыі (БТФ), старшыня Савета дырэктараў ААТ "Амкадор" — кіруючая кампанія холдынга" **Аляксандр Шакуцін** на прэзентацыі Нацыянальнай акадэміі тэніса, паведамляюць інфармагенцтвы.

Нацыянальная акадэмія тэніса размешчана ў новым корпусе Палаца тэніса, пабудаваным у 2014 годзе. У распараджэнні беларускіх тэнісістаў 8 крытых і 15 адкрытых кортаў з рознымі тыпамі пакрыцця, на якіх можна трэніравацца круглы год. Для забеспячэння трэніровачнага працэсу тут будзе створана тэнісная інфраструктура поўнага цыкла, якая ўключае ў сябе спецыялізаваны медыцынскі цэнтр, трэнажорныя залы, басейн, невялікую гасцініцу і крыясаўну для аднаўлення спартсменаў пасля гульняў і трэніровак. Таксама ў бліжэйшы час будзе прэзентаваны план будаўніцтва тэніснага цэнтра з грунтавым пакрыццём.



**ПЫТАЛЬНІК**

## Хто зараз кіруе футбольнай зборнай Беларусі?

*Пра адстаўку Кандрацьева ўсе мы чулі, як і пра тое, што зараз шукаюць кандыдатуру на пасаду галоўнага трэнера зборнай Беларусі па футболе. Але ўжо хутка адборачны матч з іспанцамі. Хто зараз рыхтуе каманду да гэтай сустрэчы?*

**Уладзімір КАРПОВІЧ, Мінск.**

Паводле некаторых звестак, у бліжэйшы час выконваючым абавязкі галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай павінен быць прызначаны **Андрэй Зыгмантовіч,** які да гэтага ўваходзіў у трэнерскі штаб каманды. Пад яго кіраўніцтвам і беларуская зборная будзе рыхтавацца да матча з іспанцамі, які пройдзе 15 лістапада (а 18 лістапада беларусы ў таварыскай гульні сустрэнуцца з мексіканцамі).

На пасаду галоўнага трэнера зборнай Беларусі прэтэндуюць ужо два дзясяткі замежных трэнераў, але асноўным кандыдатам называюць **Аляксандра Хацкевіча.**

Дарэчы, беларуская зборная ўпершыню за 14 гадоў пакінула топ-100 рэйтынгу ФІФА — зараз яна на 106-м месцы.

Самую нізкую пазіцыю ў табліцы ФІФА зборная Беларусі займала ў маі 1994-га — 142-е месца. А лепшы рэйтынг зборная зарабіла ў часы Бернда Штанге — у лютым 2011-га каманда дасягнула 36-га радка.

## За што адлучылі Глеба?

*Апошнім часам за футбольную зборную Беларусі не гуляе Аляксандр Глеб, хоць так і не вядома, за што яго адлучылі ад каманды. Можа, праясніце сітуацыю?*

**Сяргей ЛІЦВІНАЎ, Баранавічы.**

Былы настаўнік зборнай Георгій Кандрацьеў на самай справе не браў на гульні **Глеба-старэйшага**, але так і не сказаў — чаму. Натуральна, пасля гэтага з'явілася шмат самых неверагодных чутак.

А вось брат Аляксандра **Вячаслаў Глеб** пракаментаваў гэтую сітуцыю так: *"Пісалі глупства, якому нельга верыць. Ахінея нейкая! Няхай у зборнай публічна скажуць аб гэтым. Той жа Кандрацьеў ці нехта яшчэ. Чаму ён не кажа? А пасля пачынаецца: Саша нешта там парушыў... Лухта! Саша — прафесіянал. Калі прыязджаў у зборную, заўсёды начаваў на базе. Калі трэнерскі штаб усіх адпускаў, футбалісты ехалі дадому, брат мог дазволіць са мной і маёй жонкай пасядзець у рэстаране. Ды Саша ў любым стане лепшы. Хоць практычна не п'е. Шчыра кажу: брат адзін з самых непітушчых. Калі ён будзе ў зборнай, то яшчэ запатрабуе тлумачэнняў".*

## За што УЕФА можа прымяніць санкцыі да БАТЭ і Федэрацыі футбола Беларусі?

*Ведаю, што падчас футбольных матчаў на "Барысаў-Арэне" Беларусь—Украіна і БАТЭ—"Шахцёр" непрыстойна паводзілі сябе балельшчыкі. Ці будуць нейкія санкцыі з боку УЕФА?*

**Андрэй ХОМЧАНКА, Маладзечна.**

Футбольны клуб БАТЭ ўжо афіцыйна папрасіў прабачэння ў данецкага "Шахцёра" і бразільскага легіянера ўкраінскай каманды **Луіса Адрыяна** за расісцкія выкрыкі сваіх фанатаў, з-за паводзін якіх суддзя на некалькі хвілін перапыніў паядынак.

А на сайце БАТЭ з'явілася такая заява: *"Для нас гэта стала непрыемным сюрпрызам, за які сорамна перад нашымі сябрамі з Данецка. Мы не падзяляем пазіцыі асобных нашых "фанатаў". Наадварот, наш клуб лічыць любыя праявы расізму недапушчальнымі і заклікае гледачоў паважаць усіх удзельнікаў спаборніцтваў. Робім гэтую заяву не таму, што клубу пагражаюць санкцыі з боку УЕФА, а таму, што шчыра лічым такія паводзіны дзікасцю і ідыятызмам. Спадзяёмся, у далейшым на "Барысаў-Арэне" падобнае не паўторыцца".*



Чакаецца, што пытанне аб санкцыях УЕФА разгледзіць 13 лістапада. У гэты ж дзень будзе разгледжана і яшчэ адна справа, якую УЕФА завяла ў дачыненні да Беларускай федэрацыі футбола і Федэрацыі футбола Украіны ў сувязі з паводзінамі заўзятараў каманд падчас адборачнага матча чэмпіянату Еўропы—2016.

Беларуская федэрацыя можа быць пакарана за палітычныя крычалкі фанатаў, а таксама за недастатковае забеспячэнне бяспекі на гульні. Федэрацыю футбола Украіны абвінавачваюць у скандзіраванні заўзятарамі лозунгаў на палітычную тэматыку, а таксама ў выкарыстоўванні піратэхнікі прыхільнікамі зборнай Украіны.

## Хто такі Дэні Тэйлар?



*Чуў, што ў хакейным мінскім "Дынама" з'явіўся яшчэ адзін легіянер-варатар. Раскажыце больш падрабязна пра яго.*

**Віталь, Полацк.**

— Склад "Дынама" папоўніў 28-гадовы канадзец **Дэні Тэйлар**. Ён нарадзіўся ў Англіі, у горадзе Плімут. У 2004 годзе быў задрафтаваны "Лос-Анджэлес Кінгз", але ў НХЛ згуляў за клуб толькі 20 хвілін у сезоне 2008 года.

Асноўную частку сваёй кар'еры ён гуляў у АХЛ і больш нізкіх паўночнаамерыканскіх лігах. У сезоне 2010/2011 ён нават ездзіў у Германію, дзе згуляў 28 матчаў за "Гамбург Фрызерс". Свой другі матч у НХЛ Тэйлар правёў праз пяць гадоў пасля дэбюту — у "Калгары Флэймз". Але і там ён згуляў усяго два матчы.

Потым хакеіст працягнуў кар'еру ў шведскім клубе "Фер'естад", дзе гуляў мінулы сезон. У 16 матчах рэгулярнага чэмпіянату яго каэфіцыент надзейнасці склаў 2,32, а працэнт адбітых кідкоў — 91,8%. Акрамя таго, на яго рахунку адзін "сухі" матч у плэй-оф і срэбраны медаль нацыянальнага першынства Швецыі.

Пагадненне з галкіперам разлічана да канца сезона.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**СКОРБИМ**

*Александр РУДСКИХ:*

## «В свое время я понял, что бороться с ветряными мельницами не стоит»

25 октября умер заслуженный тренер СССР и Беларуси по легкой атлетике, бывший глава Белорусской федерации легкой атлетики, бывший главный тренер сборной Беларуси **Александр Рудских.**

*"Ушел из жизни Александр Григорьевич Рудских. Человека, более преданного своему делу — нашему делу — легкой атлетике, я не встречала. Очень мудрый был человек и в спорте, и в жизни... Очень за многое ему благодарна! Самые искренние соболезнования близким. Вечная память!"* — написала в "Фейсбуке" олимпийская чемпионка **Юлия Нестеренко.**

Относительно не так давно Александр Григорьевич в интервью "Народной Воле" с болью рассказывал о состоянии дел в белорусской легкой атлетике.

— Этот вид спорта сейчас деградировал. Об этом и раньше говорилось, что называется, били во все колокола, но публикации воспринимались как какие-то кляузы обиженных людей. При этом распространялись не сплетни, а мы приводили цифры, диаграммы... И не надо было иметь много ума, чтобы задуматься над этими вопросами. А сейчас уже спохватились. Вдруг прозрели и увидели, что имеем.

**— В чем, на ваш взгляд, основная проблема белорусской легкой атлетики?**

— Я хочу сказать, что сегодня спорт вышел на такую высоту, что одному тренеру с громадным опытом и великолепной интуицией уже не под силу проследить за развитием спортсмена. Нужны научные и медицинские параметры, которые бы подсказывали, что спортсмен растет, а не наоборот — движется по неправильному пути. Во всем мире такие системы управления созданы. Мы тоже имеем Центр спортивной медицины, но что там получаем? Ничего. Я в свое время, работая в экспертном совете, пытался поставить дело на нужный лад, но не получил поддержки и понял, что бороться с ветряными мельницами не стоит. Написал заявление и ушел по собственному желанию.

**— Некоторые белорусские спортивные чиновники заявляют, что "вся надежда в наше время — на хорошую таблетку". Отмечалось, что мы проиграли эту Олимпиаду методически и фармакологически. Мол, "россияне и немцы заходят в кабинку, делают, что им нужно, и идут метать молот. А то, на чем готовились мы, — это 1979 год".**



— Ну, конечно, применяют препараты, которые можно обнаружить через 90—100 дней. Это сколько же нужно прятаться от допинг-контроля?

**— Но речь, насколько я понял, идет о разрешенной фармакологии...**

— Безусловно, без фармакологии не обойтись. Нужно восстанавливать спортсмена, добавлять ему силы. Но фармакология должна накладываться на соответствующий уровень подготовки человека. Вот тогда будет эффект. На одной фармакологии далеко никуда не уедешь. Потому что, если спортсмен не готов, ему можно дать любые разрешенные или запрещенные препараты, но он все равно не победит на современном уровне. Фармакология прежде всего должна способствовать восстановлению, накоплению каких-то микроэлементов. А мы серьезно этим делом не занимаемся. В нашем современном спорте я не вижу специалистов по фармакологии того уровня, который сегодня требуется. Я готов об этом заявить на любом уровне.

Александр Григорьевич Рудских ушел из жизни в возрасте 80 лет...

**Алесь СИВЫЙ.**

**ПО ПОВОДУ**

## Первопроходцы

Белорусский теннис еще молод — он берет начало с 1953 года. Но сегодня успехи наших ведущих мастеров большой ракетки довольно значительны. Думаю, что достаточно назвать такие имена, как Виктория Азаренко и Максим Мирный, которые не только выигрывают многие престижные турниры, но и являются призерами Олимпийских игр в Лондоне.

Но, говоря о сегодняшних успехах, мы не вправе забывать тех, кто стоял у истоков большого тенниса в нашей стране... А их вначале было всего двое: Марат Зверев и Геннадий Петров. Первый зарождал теннис в армейском клубе, а второй — в спортивном обществе "Динамо".

Эти тренеры вытянули на себе черновую работу становления этого вида спорта и многое постигали вместе со своими учениками. И результаты их тренерской работы трудно и переоценить, и недооценить.

Самое известное "творение" Марата Николаевича — дочь Наташа, которая была победительницей первенств мира среди детей и юниоров, побеждала в "Большом шлеме".

В "Динамо" был подготовлен чемпион Европы Сергей Леонюк.

Уже тогда благодаря Марату Звереву и Геннадию Петрову, а также присоединившемуся к ним Георгию Кравкову теннис в нашей стране с каждым годом приобретал все большую популярность. Эти тренеры воспитывали своих игроков прежде всего людьми интеллектуальными. Так, Марат Николаевич часто повторял, что много и тяжело работать на корте способен только умный человек, который, несмотря даже на горечь поражения, не бросит ракетку.

Да, тогда не было Дворца тенниса, не было такого количества теннисных кортов, как сегодня, но были настоящие энтузиасты, влюбленные в свое дело.

Сегодня в стране десятки молодых тренеров работают с сотнями юных спортсменов. Главное, чтобы теперешние наставники унаследовали от первопроходцев лучшее, работали с душой, несмотря ни на какие трудности (а их хватает). И тогда результаты у наших теннисистов будут еще выше!

И в заключение хочу внести предложение: почему бы нам Дворец тенниса не назвать именем кого-то из наших теннисистов, достигших больших высот, а на стенах дворца не разместить стенды с их фотографиями и фото их тренеров? Убежден, что они это заслужили!

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси.**

**ШАШКІ**

## На марскім курорце Кранева

Менавіта тут, у Балгарыі, ладзіўся маладзёжны чэмпіянат свету па шашках-64. У ім надзвычай паспяхова выступілі прадстаўнікі Беларусі. **Уладзіслаў Валюк** і **Яна Якубовіч** заваявалі сярэбраныя медалі ва ўзроставых групах галоўных турніраў у юніёраў да 16 гадоў і юніёрак да 13, **Вера Хвашчынская**, **Марыя Міронава** і **Вікторыя Нікалаева** — бронзавыя сярод удзельніц да 19, 16 і 10 гадоў адпаведна. Уладзіслаў Валюк і Яна Якубовіч узнагароджаны за трэція месцы і ў хуткай праграме. Вікторыя Нікалаева стала наймацнейшай яшчэ і ў маланкавай гульні, другімі фінішавалі ў сваіх катэгорыях Яна Якубовіч і **Міхаіл Семянюк**.

У.Валюк таксама паспяхова змагаецца ў турнірах сярод дарослых. Напрыклад, у 27-м міжнародным шашачным фестывалі "Мінск-2014" набраў 12 ачкоў з 18 магчымых і паказаў другі вынік сярод 31 удзельніка. На адно ачко меней запісала ў свой актыў міжнародны гросмайстар **Вольга Федаровіч**. Перамог жа міжнародны майстар **Андрэй Толчыкаў**.

Заслугоўвае ўвагі мініяцюрная партыя, згуляная ў мужчынскім ЧРБ-64: 1.ed4 fe5 2.d:f6 g:e5 3.ab4 bc5 4.ba3 hg5 *(гл. дыяграму)*:




**Белыя** (У.Валюк): a1, a3, b4, c1, c3, d2, e1, f2, g1, g3, h2 11). **Чорныя** (Р.Протчанка): a7, b8, c5, c7, d6, d8, e5, e7, f8, g5, h8 (11). Выйгрыш. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

Трэніруецца Уладзіслаў у свайго бацькі Андрэя Станіслававіча Валюка — экс-чэмпіёна свету, дзеючага чэмпіёна Еўропы, міжнароднага гросмайстра. Пазнаёмцеся і з яго творчасцю — павучальным фрагментам гульні ў бліцы першынства кантынента:

**Белыя** (А.Валюк): a3,c3,c1,d2,f4,g1,h4 (7). **Чорныя** (А.Гаруноў): a7,b6,d6,d8,e7,f6,h6(7). Ажыццяўляецца імклівая атака:1. cb4! fg5(bc5?) 2.hf6 ee3 3.df4 de7 4.ba5! bc5 5. cb2! ef6 6. bc3 — і чорныя здаліся.

## Матч дружбы

У мінулы раз мы паведамілі пра гэтае міралюбівае спаборніцтва, якое праводзіцца паміж беларускімі і ўкраінскімі складальнікамі камбінацый на 64-клетачных дошках, і прывялі пазіцыю, якая адпавядае тэме А: у зыходным становішчы адкрытая простая белых знаходзіцца на полі сёмай гарызанталі, але дамка ўтвараецца не адразу. Разгледзьце яшчэ адну задумку:

**Белыя**: b4, b6, c1, c5, c7, d6, g1, h2 (8). **Чорныя**: a3, a7, b2, d2, e3, f2, g5, g7 (8). Змест: g3, f2, e3, e3, f4 (e3) d8, d6x.

Прадугледжана і тэма В: адкрытыя белыя простыя адсутнічаюць на пераддамачных палях. Сёння разбярыце такую канструкцыю:

**Белыя**: b4, c5, d4, f4, g3, h4 (6). **Чорныя**: a3, a7, b2, d2, e7, g7, h2 (7). B6, d8, e7!!, f8x.

У арбітражную калегію ўваходзяць Віктар Шульга (Беларусь), Іван Івацка (Украіна), якія не ацэньваюць творы сваёй каманды, і незалежны суддзя Рустам Шаяхметаў (Расія). Кансультантамі могуць быць усе жадаючыя.

## Праверце рашэнні

**Выпуск шашак за 21 кастрычніка 2014 года**: (М.Грушэўскі): dc7, h2, e7, d8, h6x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906 nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**




**Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Першы намеснік галоўнага рэдактара Святлана Міхайлаўна КАЛІНКІНА**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 27.10.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №4158.**